Pieгasyłka apłačana

Цана асобнага нумару **15** гр.

№ 16. ня, субота, 8 верасьня 1928 г. Год II.

# НАРОД

**РЭДАКЦЫЯ Й АДМІНІСТРАЦЫЯ:**
Вільня, Новы Сьвет. Тургельская 22 кв. 3.
ПАДПІСКА: на год . . . . 6 зал
„ паўгоду . . . 3 „
на 3 месяцы . . 1 50 гр.
Заграніцу ўдвая даражэй.

**ВОРГАН БЕЛАРУСКАЕ СЯЛЯНСКАЕ ПАРТЫІ.**

**ЦАНА АБЕСТАК:**
Перад тэкстам . . . . 20 гр.
Сярод тэксту . . . . . 25 гр.
і па тэксьце . . . 15 гр.
за радок дробнага друку.

**Выходзе 4 разы у месяц.**

## Улада прыпыніла дзейнасьць Т-ва Беларускае Школы ў Віленскім вайводзтве.

У сераду 29-га жніўня сёлета па загаду старасты места Вільні паліцыя апячатала кнігі й памяшчэньне Галоўнай Управы Т-ва Белар. Школы. Па загаду таго-ж старасты прыпынена дзейнасьць Т-ва Белар. Школы ў усім Віленскім вайводзтве.

Яшчэ некалькі месяцаў раней прадстаўнікі ўлады выказавалі прадстаўніком Т-ва Б. Школы „жычэньне“, каб некаторыя працаўнікі Т-ва, варожыя — на пагляд улады—да польскага гаспадарства, перасталі належыць да кіраўнічых ворганаў Т-ва; у праціўным прыпадку ўлада пастрашала закрыцьцём Т-ва. Дзеля таго цяперака ўся Галоўная Ўправы Т-ва падалася ў дымісыю, выбраўшы з трох чалавекаў—А. Трэпкі, Я. Шнаркевіча і К. Крука—Арганізацыйнаю Комісыю зьезду Т-ва. Арг. Комісыя стараецца, каб вайводзкая ўлада скасавала загад мескага старасты віленскага аб прыпыненьні дзейнасьці Т-ва і хоча ў найбліжшым часе склікаць зьезд Т-ва, на каторым будзе выбрана новая Галоўная Ўправа.

У іншых вайводзтвах дзейнасьць Т-ва Беларускае Школы ня спынена, але ў Наваградку—як наказуе „Kur. Wil.“ ўлада дамагаецца аддаленьня з Управы аднаго ці некалькіх сяброў,

Т-ва Беларускае Школы вялікая старая дый заслужаная беларуская культурна-асьветная арганізацыя; прыпыненьне („zawieszenie”) дзейнасьці яго балючым рэхам адаб‘ецца на ўсім беларускім народзе. Шкода ад гэт‘кага прыпыненьня робіцца не адным толькі Беларусам, але й полскай гаспадарсьцьвенасьці. Дарога прыпыненьнеў і ліквідацаў гэта благая а навет зусім нягодная дарога дзеля палепшаньня адносінаў Беларускага насяленьня да Польшчы. Пакуль трывае старая палітыка ўлады ў ваднасінах да Беларусаў, пакуль беларускаму насяленьню не даецца школы, пакуль у ўсіх галінах жыцьця да Беларусаў адносяцца так, як бы яны былі даўно й бэзапэляцыйна пазбаўлены ўсіх грамадзкіх правоў,—датуль у ўсяго беларускага народу ёсьць ненавісьць да Польшчы і кожны вораг Польшчы ў вачох народных прадстаўляецца героям. Усялякія рэпрэсыі да такіх людзёў толькі даюць ім, так сказаць, патэнт на геройства ў вачох народу. Каб адносіны беларускага народу зьмяніліся, каб сталіся яны лёяльнымі а навет прыязнымі, трэба каб сама Польшча, каб польскі ўрад зьмяніў свае адносіны да Беларусаў, а тады ня трэба будзе жадных „завешаньнеў“ (прыпыненьнеў). На жаль гэтага караня справы ўпорна ня хоча зразумець польская ўлада дый польскае грамадзянства.

---

## Не дамося зьбіць зь беларускае дарогі!

Напасьцяй, лаянкай напраснай
Грудзёў ня варта мазаліць,
Не пагасіць вам праўды яснай—
Жыў Беларус і будзе жыць!

Янка Купала.

Бываюць паступкі на толькі, ліхія, нягодныя, што адразу цяжка бывае зразумець скуль у людзёў бярэцца такая нягоднасьць і дзе ў іх падзелася сумленьне. З такіх паступкаў складаецца вялізарная большасьць дзейнасьці так званага Беларускага Сялянска-Работніцкага Пасольскага Клюбу (крыху раней ён сваўся „Змаганьне”) і людзёў беспасярэдне зь ім зьвязаных. Адносіны іх да нашай працы—гэта збор чыстай маны й провокацыі.

Каб не разьбіраць усяго, разгледзім выданы 3 жніўня сёлета іхні „комунікат“ *) проці нас. У гэтым „комунікаце“ паслу д-ру Я. Станкевічу, Беларускаму Гаспадарскаму Зьвязу і Беларускай Сялянскай Партыі робяцца найстрашнейшыя закіды, бо закіды „здрады й продажы“.

Хто робе такія страшныя закіды, той павінен даць довады. Але жадных, хоць-бы найменшых довадаў ці фактаў, яны не падаюць. Ведама не падаюць затым, што ня маюць, бо нічагусенькі благога проці беларускага народу не зрабіў ані др. Я. Станкевіч, ані вышменаваныя шчыра беларускія арганізацыі. Напады іхнія на нас чыста такія, як паскудныя жуліцкія лаянкі на пасьцівых людзёў.

У Вільні часамі можна пабачыць гэт‘кі абразок: да праходзячых падвіленскіх дзяўчат вясковых падбягае віленскі жулік і, называючы адну зь іх па імені, кідае на яе некалькі паскудных слоў, каб яе скомпромітаваць; ведама, жулік гэта робе не дарма, а ўмовіўшыся за надгароду зь непрыяцельмі дзяўчыны. Жулік такі жадных довадаў нягоднасьці зьневажанага ім чалавека ня мае, навет дасканальна ведае, што ўсё ім (жулікам) казанае няпраўда, але кажа, каб чалавека зьняславіць. Вось гэт‘кія, чыста жуліцкія лаянкі ёсьць і на нас ад нашых *дварчанінаўскіх* жулікаў.

Што можа й мае зрабіць чалавек, на каторага нападаюць гэтак жулікі-хуліганы? Ён або пройдзе моўчкі або, схапіўшы жуліка за каршэнь, будзе ад яго дамагацца довадаў праўдзівасьці таго, што той брэша. Гэтае дамаганьне довадаў павінен паставіць кожны Беларус бяз розьніцы партыйнай належнасьці, аб чые вушы абаб‘ецца дварчанінаўская лаянка проці нас. Але мы наперад ведаем, што жадных довадаў яны не дадуць, бо ня маюць. Дзеля таго будзем лічыць сваёй грамадзкай павіннасьцяй—паказаць нашаму народу ўсю запраўднаю жуліцкасьць палітычнаю нашых не‘пасьцівых праціўнікаў.

Што, апрача агульных слоў, пішуць у сваім „комунікаце“ панове Дварчаніны? Прывядзём усё гэта точна. Яны пішуць: 1) што Я. Станкевіч „прайшоў у Сойм“ „з яўнаю паддзержкай „сільных гэтага сьвету“, пры скасаваньні ўсіх беларускіх (навет угадовых) сьпіскаў у тэй акрузе, дзе ён быў выстаўлены“.

У чым выразілася гэная „падзьдзержка“? Ці ў тым, што нашых выбіральнікаў усяляк улада страшыла, што паліцыя адбірала ад іх 41 №, што адганяла іх ад урнаў, што нашых супрацоўнікаў каралі штрафамі і арыштоўвалі? Гэтая мана „пралетарскіх“ Дварчанінаў разьлічана на тыя акругі, дзе нашага сьпіску ня было. Але людзём з гэных вокругаў радзім даведацца праўду там, дзе быў наш сьпісак № 41 Беларускіх Сялян і Работнікаў, яны тады даведаюцца — як выглядала гэная „падзьдзержка“. „Адзінка“ з намі ходалася, а ў Наваградзкім вокрузе, у сьпіску, па каторым прайшоў у Сойм Дварчанін, быў разам зь ім на сьпіску супрацоўнік „адзінкі“—Савонь, пакуль сам не адмовіўся.

А што да касаваньня сьпіскаў, дык не ад нас гэта залежыла і ня наша гэта віна. І наш сьпісак быў скасаваны ў Сьвянцянскім вокрузе, з прычыны чаго не прайшоў у Сойм такі важны рабачай на беларускай ніве, як Ю. Мурашка. І ці можна нас за тое вініць, што зь беларускіх сьпіскаў астаўся наш адзін у Лідзкім вокрузе? Ў Сьвянцянскім вокрузе астаўся зь беларускіх сьпіскаў адзін № 18 (Блёку Нац. Меншасьцеў), аднак панове дварчанінаўскія інтэрнацыяналістыя іх ня вінаць, бо „сельсаюзьнікі й хадэкі“ „ня маюць ніякага пасьпеху“ (словы з „комунікату“).

Мы асталіся адны ў Лідзкім вокрузе і прайшлі, беларускую справу абаранілі і цяпер баронім, а сябры Дварчанінавы асталіся адны зь Беларусаў у Берасьцейскім вокрузе і не прайшлі, асталіся адны ў Пінскім вокрузе і навет сьпіску не патрапілі выставіць. Вось тут, дык віна! А калі па нашым сьпіску ў Лідзкім вокрузе прайшло толькі двух, дык у гэтым ізноў віна вашая, панове інтэрнацыяналістыя, бо вы разам з № 18 агітавалі за байкот і дэманстрацыю і гэтым прычыніліся да выбару ў большай лічбе паслоў польскіх.

Калі пасол Я. Станкевіч благі дзеля таго, што прайшоў па сьпіску № 41, дык благі й Валынец, каторы прайшоў у Сойм па тымжа сьпіску, але Валынец перайшоў у ваш клюб, вы проці яго нічога ня маеце. Дык навет вы сваімі адносінамі да Валынца прызнаіцё, што сьпісак № 41 Беларускіх Сялян і Работнікаў быў добры. А калі ў чым спракудзіўся Я. Сганкевіч *цяпер* па выбарах, дык пакажэце, што ён зрабіў благога.

Далей у „комунікаце“ чытаем: „Ведаючы, якою апулярнасьцю карысталася былая Грамада, ён (Я. Станкевіч) спэкулюе на яе імені і ілжыва нагла называючы сваю групу „нацыянальнаю часткаю б. Грамады“ і падшываючыся прыхільнікам Т-ва Беларускай Школы“.

Што мы казалі, тое й кажам: 1) паміж былой Грамадой і такім дварчанінаўскім „Змаганьням“, перахрышчаным цяпер у „Беларускі Сялянска-Работніцкі Пасольскі Клюб“ няма нічога супольвага. Грамада была арганізацыя нацыянальная, каторая толькі з прычыны благіх, несправядлівых адносінаў да Беларусаў польскай улады прыняла ў некаторай меры характар прыязны да Ўсходу, але „Бел. Сял.-Раб. Пас. Клюб“—арганізацыя інтэрнацыянальная, мэтай каторай ёсьць пад *беларускай хвормай* праводзіць *інтэрнацыянальны* (міжнародны) *зьмест*; у Грамадзе былі людзі, што ў значнай меры стварылі беларускі рух, а паміж „нашых інтэрнацыяналістых такіх людзёў нямашака, яны Беларусы толькі з учарашняга дня і нічога ня робячы для беларускай справы толькі ёй шкодзяць, будучы паразытамі (якісь „вашаны“) на целе беларускага руху. У працэсе Грамады мы, колькі маглі, баранілі падсудных і, хоць аб гэтым маўчалі розныя дварчанінаўскія „Працы“, але ня важыліся навет гэтаму запярэчыць, а панове інтэрнацыяналістыя, як і комуністыя провокавалі падсудных. Ня ўсе былыя грамадаўцы да нас належаць, як і ня ўсе іншыя Беларусы да нас належаць, бо мы не абнялі сваёй працаю ўсіх Беларусаў, але належыць шмат хто з б. грамадаўцаў; не патрабуем гэтага ані рэкламаваць ані гэтаму пярэчыць.

Што да Т-ва Беларускае Школы, дык адным з ініцыятараў і фактычных закладчыкаў ягоных побач з А. Луцкевічам і Б. Тарашкевічам быў у 1921 г. Я. Станкевіч, каторы, паміж іншым прыгатаваў яму статут і запрапанаваў існуючы дагэтуль назоў. А закладчыкам Беларускай Гімназыі ў Вільні разам зь нябошчыкам Ів. Луцкевічам і М. Кахановічам быў той-жа Я. Станкевіч, аб гэтым ведаюць ўсе, хто ў 1918—19 г. ў Вільні жыў, нягледзячы на тое, што вы, панове інтэрнацыяналістыя умысьля замоўчуеце аб гэтым навет на сьвяткаваньні ўгодкаў гімназыі.

---

*) „Комунікат“ быў спачатку надрукаваны ў „Долі Працы“. Дзеля таго што гэны № „Долі Працы“ быў сканфіскаваны, рэдакцыя пастаралася так, паінформаваць сваіх чытароў, што быццам конфіскацыя была за „комунікат“. Тымчасам аказалася, што не за „комунікат“, бо такія „комунікаты“ ня шкодзяць, а наадварот памагаюць польскай уладзе.

Пажадана, а часта й канечне трэба, каб гэтыя грошы знайшліся на месцу; добра й справядліва было-б, каб самі курсанты плацілі вязначныя грошы сваім вучыцялём.

Дзеля разгляду пытаньня на месцу аб закладзінах такіх курсаў—на запросіны мясцовых рабачаёў—прыяжджаў 19 жніўня ў в. Ахонава, Навагрудзкага пав. пасол д-р. Я. Станкевіч. Гэта дало магчымасьць якомусь спагадніку інтэрнацыянальнай „Долі Працы“ напісаць у яе, што быццам прыяжджаў пас. Я. Станкевіч, хацеў закласьці сябрыну, але ніхто не згадзіўся. Тым часам было зусім начай: ня дзеля зборкі й закладзінаў сябрыны прыяжджаў д-р. Я. Станкевіч, бо на гэта ня было й дазваленьня, але як сказана вышэй, дзеля паразуменьня зь некалькімі мясцовымі рабачаямі аб курсах. Пры гэтым варта адзначыць, што ініцыятыва курсаў вышла ад самых Ахонаўцаў.

Курсы ў Ахонаве будуць адчынены зь 1-га кастрычніка сёлета. Як выглядае, курсы можна будзе зацьвердзіць у улады.

### Звольненыя з турмы.

Зь Вялейскай турмы звольнены Беларусы: 1) Канапелька Сяргей, 2) Лявіцкі Даніла, 3) Казакевіч Вінц., 4) Канапелька Якуб, 5) Марзак Васіль і 6) Сьліж Васіль.

### Польская Партыя „Piast“ у Вільні.

Здавалася, што хоць прынамся „Пяста“ ў Вільні нямашака, ажно аказуецца й ён ёсьць і не абы якія людзі належаць да яго. „Kurjer Wileński“ (Nr 198) наказуе, што акружны сакратар „Пяста“ ў Вільні, Язэп Каупэ зрабіў цэлы сьцяг ашуканстваў, выдаючы сябе фальшыва за рэдактара часапісаў і выдавецтваў у усёй Польшчы. Паміж іншын ён спаганяў тысяча зал. па сфалшаваным вэксалю.

## БЕЛАРУСКІ ГАСПАДАРСКІ ЗЬВЯЗ.

### Новыя таварыствы.

*У в. Гародзькі, Забрэскай вол.* Валожынскага пав. закладзена Т-ва Беларускага Гаспадарскага Зьвязу 5 жніўня. У Ўрад т-ва абраны: Пётра Станкевіч—за старшыню, Міхал Ташлык—за заступніка старшыні, Міхал Станкевіч Адамоў—за сакратара і Міхал Азерскі—за скарбніка.

— *У в. Вялікае Запрудзьдзе* Забрэскай вол. Валожын. пав. арганізавана Т-ва Бел. Гасп. Зьвязу 4 жніўня. У Ўрад абраны: Аляксей Пахамовіч—за старшыню, Дзьмітра Бараноўскі—за заступніка старшыні, Даніла Гіль—за скарбніка і Язэп Шаўлюк—за сакратара.

— *У в. Малая Дайнаўка* закладзена Т-ва Бел. Гасп. Зьвязу 7. VIII. У Ўрад абраны: Антон Мышлён—за старшыню, Адам Таўгень—за скарбніка і Янка Румінскі—за сакратара.

— *У в. Вялікая Дайнава* Забрэскай вол., Валож. пав. 8. VIII: У Ўрад т-ва абраны: Калітвік Янка—за старшыню, Ліштван Янка—за скарбніка і Ліштван Вінцэсь—за сакратара.

— *У в. Гарадэчна*, Забрэскай вол., Валож. пав. 10. VIII закладзена Т-ва Бел. Гасп. Зьвязу. У Ўрад т-ва абраны: Даніла Марзак—за старшыню, Міхал Барада—за скарбніка і Тодар Барада—за пісара.

— *У в. Лістапады*, Забрэскай вол., Валож. пав. закладзена Т-ва Бел. Гасп. Зьвязу 9 жніўня. У Ўрад абраны: Аляксандар Караneўскі—за старшыню, Янка Станкевіч—за скарбніка і Міхал Будкевіч—за сакратара.

— *У м. Валожына* закладзена Т-ва Беларускага Гаспадарскага Зьвязу 12-га жніўня. Раёнам дзейнасьці т-ва прыняты Валожынскі павет. У Ўрад т-ва абраны: Хведар Махнач—за старшыню, Міхал Шакун—за пісара і Пётра Ўнуноўскі—за скарбніка. Заступнікамі да Ўраду абраны: Юрка Мандрык, Аляксей Журкевіч і Янка Рэвут.

— *У в. Маркоўцы*, Жойдзісная вол., Вялейскага пав. 15-га жніўня закладзена Т-ва Беларускага Гаспадарскага Зьвязу. У Ўрад Т-ва абраны: Янка Мурашка—за старшыню, Віталь Нагорскі—за скарбніка і Альфонс Гіль—за пісара.

### Надгарода за экспонат Бел. Гаспадарскага Зьвязу на Выстаўцы.

На Выстаўцы ў Вільні прызнана 100 зал. надгароды за экспонат Бел. Гасп. Зьвязу—вулей. Грошы дастаў майстра вульля, грам. Тулейка зь в. Халаімаўшчына, Стаўпецкага пав.

Іншых экспонатаў яшчэ комісыя не аглядала, могуць яны такжа дастаць надгароды.

### Коопэратывы Беларускага Гаспадарскага Зьвазу.

5 жніўня сёлета ў в. Гародзькі Валожынскага пав. закладзены коопэратыў крэдытны (каса) пад назовам „Помач“. 12 жніўня сёлета ў м. Валожыне закладзены земляробска-гандлёвы коопэратыў пад назовам „Колас“.

Апрача іншых коопэратываў, убліжшым часе Беларускі Гаспадарскі Зьвяз закладае вялікі лянны коопэратыў—дзеля куплі, мяньня й продажы лёну.

## З ПОЛЬШЧЫ.

### Дзеля зьмены конституцыі.

1- верасьня сёл. Соймавы клюб Беспартыйнага Блёку Супрацаўніцтва з Урадам разглядаў проект зьмены конституцыі.

### Ці Беспартыйны Блёк С. з Ур. нічога ня думае рабіць у справе беларускай асьветы?

У свой час краёвая група паслоў і сэнатароў Б. Б. С. з Урадам вынесла рэзалюцыі, каторыя, калі-б былі праведзены ў жыцьцё значне папраѕілі-б палажэньне беларускай асьветы. З таго часу прайшло ўжо некалькі месяцаў, а справа не кранулася зь месца. Як чуваць, дык і пры новым міністру благія адносіны міністэрства асьветы да беларускіх школаў не зьмяніліся.

Цікаўна, што будуць рабіць цяперака паслове й сэнатары „адзінкі“ выбраныя з нашага краю, ці яны здаволяцца вынесенымі рэзалюцыямі, ад каторых нікому ня цёпла, ці будуць дамагацца далей? Беларускае насяленьне, галасамі каторага яны прайшлі ў Сойм і Сэнат, павінна на гэта зьвярнуць вялікаю ўвагу.

Апрача таго ў клюбе „адзінкі“ ёсьць навет сьвядомыя Беларусы, няго-ж яны змогуць астацца тамака тады, калі вышменаваныя асьветныя рэзалюцыі ня будуць ужыцьцёўлены? Гэта-ж тады народ ім вочы выдзера.

### Праект новага тэрыторыяльнага падзелу Польшчы.

Маёр Генэральнага Штабу Роман Стажывьскі апрацаваў новы праект тэрыторыяльнага падзелу Польшчы.

Паводле гэтага праекту, Польшча будзе падзелена на 6 правінцыяў. Кожная правінцыя будзе складацца з некалькіх аднамільённых ваяводстваў.

Сталіцы правінцыяў маюць быць у: Варшаве, Вільні, Кракаве, Пазнані, Львове і Любліне.

У кожную з іх будзе ўходзіць ад 3 да 5 ваяводстваў, з местапрабываньнем уладаў II інстанцыі і ваяводзкімі ўрадамі (ўстановамі), ня злучанымі ў местапрабываньні ваяводстваў.

Наагул у-ва ўсей Польшчы будзе 25 ваяводстваў, лічачых ня больш, як па-паўтава мільёна чалавек.

Пајшла разгульвацца работа.
Јідуць па воду маладзіцы,
Як макаў цьвет, гараць јіх ліцы;
Бяжыць з кудзеляю дзяўчына,
За ёю хлопец-малајчына
Адкуль-ся зараз увязаўся,
І сьмех і гоман там зачаўся.
Прыгрэбнік глуха б'е дзьвярамі,
Жанкі трушком јідуць з кашамі,
Лучыну јімі прыкрываюць
І жарам холад выганяюць.
А там мужчыны ўзварухнулісь,
Ў гумно па сена пацягнулісь,
Ды толькі—звычај такі маюць—
Мароз пахваляць і палаюць,
А падхадзіўшысь каля дому,
Бяруць сякеру, сані, бому
І едуць ў лес вазіць калоды—
Ляжаць на печы няма моды,
І хоць мароз крапіць пякучы,
Да ног даходзіць скрозь анучы
І сьнегам вочы зашывае,—
Мужык жыве і не шманае;
З санеј заскочыць, хлысьне пугај
Каня і вылае „дзяругај“,
Бяжыць, аб плечы б'е рукамі,
Яшчэ ј прытупуе нагамі
І так блазьнее, так дурэе,
Аж покі лоб не замакрэе.
Ўжо Костусь двојчы неўзаметкі
Заскокваў зь печы на разьведкі,
У вокны доўга прыглядаўся,
Ў малюнкі так ён углыбляўся,
Што ў јіншы сьвет перабіраўся.
На шыбе ўсё: снапкі ржаныя,
Чароты хвацкія, бујныя,
І розных красак, траў нямала.
У душу летам патыхала,
А зь јім і вобразы другія
Ўставалі, сэрцу дарагія.
Вось тут лясок, вось крыжык мілы,
Як вартаўнік чыёј магілы,
На ціхај горцы пахіліўся,
Бы аб пакојніку маліўся;
Там нібы рэчачка цікава
Зьвілася ў вербах кучаравых.
Ўсё так павабна, так прыгожа
І так на праўду ўсё пахожа,
Што хлопец сам не памятае,
Дзе ён, і што ён разглядае.
—Ня стој ты, хлопец, пры ваконцы:
З вакна, як з зяўры, дзьме бясконца!
Зноў будзеш кашляць,—кажа маці.
А хлопцу ўжо абрыдла ў хаце,
Ніяк, блазноце, не сядзіцца,
На рэчцы хоча апыніцца.
А тут яшчэ, як на спакусу,
Чуць дзядзька з хаты паказаўся,
Мароз ужо прымајстраваўся
І белым пухам сеў на вусу,
І хто з двара ў дом ні прыходзіць,
Пра холад гутарку заводзіць:
—Ну-ж і мароз—аж нос зрывае!
А як на ўсходзе чырвань грае!
Слупы такія паўставалі,
Пажарам страшным загулялі!—
Такія зьявы ў Божым сьвеце!
Ну, як тут вытрываць, скажэце?
Кастусь у запечку стхарыўся,
Абуцца ў лапці прымудрыўся,
А ў лапцях вушкі скураныя
Былі ўжо досыць пажылыя;
Цішком забраўся, апрануўся
Ды ў лес зь сякеркаю кульнуўся.
А лес, як добры тој знаёмы,
Стајіць зьбялелы, нярухомы
Абапал рэчачкі сьцяною,
Над ёю сплёўшыся страхою,
Далёка кінуўшы галінкі;
А маладзенкія ялінкі
Пад белым пухам чуць заметны;
Яны так мілы, так прыветны,
Бы тыя красачкі-дзяўчаткі,
Надзеўшы гэтыя апраткі!
Затое-ж хвоечкі малыя
Стаяць, як сіраты якія,
Ад сьнегу выгнуўшысь дугою,
На дол прыпаўшы галавою.
„Пагнуў вас сьнег, мае хвајінкі!
Ях, вы, гаротныя націнкі!“
Над јімі Костусь разважае,
І жаласьць хлопца пашыбае.
І ён да хвоек падбягае,
Сьняжок зь јіх ціха атрасае—
І хвојкі зразу ажываюць,
Ўгару макушы падымаюць,
Сьпярша павольна, бы баяцца,
А потым појдуць разьгінацца.
А хлопчык рады і сьмяецца,
Стајіць зь мінуту, ні сьхісьнецца,
Аддаўшысь нејкім думкам-марам,
Аж б'ецца сэрца яго жарам
Але пара, пара за дзела!
І ён на рэчку сходзіць сьмела.
Замерла рэчка між лясамі,
Бярозы голымі сукамі
Сплялісь з алешнікам над ёю;
Яліны цёмнај чародою
Навісьлі густа салашамі.
А вось старая дзеравяка
Упала ў рэчку, небарака:
Відаць, што бура палажыла
І мост жывы зь яе зрабіла.
А лёд, бы мур сьцямна-зялёны,
Чуць на сярэдзіне падняты,
Ляжыць, цяжэрны і зацяты,
Вартуе ходы ўсе і гоны,
Каб і стрыжэнчык не прабіўся.
І вось тут Костусь прыпыніўся,
На лёд глядзіць, штось разважае
І ў ход тапорык свој пускае.
Лядок закашляў, зајіскрыўся,
На срэбра-друзачкі пабіўся;
Лятуць крупінкі ледзяныя,
Бы ўлетку пырскі дажджаныя,
І чуць апошні лёд зламаўся,
Зь зямлі клубок вады падняўся
І з шумам коціць поўзьверх лёду,
Пачуўшы волечку-свабоду,
Ўсё больш-больш круг зајмае...
Але што гэта так сьпявае?
Адкуль тут музыка нясецца?
Чыя тут песьня ў душу льлецца?
Такога сьпеву-сугалосься,
Што тут над рэчкаю панёсься,
Ніхто ня зложыць, не заграе!
Ці гэта казку лес складае?
Ці даль ачнулася нямая
І немасьць песьняј парушыла,
Што спокан-векаў утварыла?
Ці то нябёсы адамкнулісь
І ціха-ціха адгукнулісь
Зямлі, ўсяму яе стварэньню?
Ці то вясна јдзе ў аддаленьні?
Вось звоны звоняць ціха, гожа,
Сьпявае жаваранка Божа,
А ёј уторaць птушак хоры
На безгранічнај дзесь прасторы.
Між мора гэтых зыкаў дзіўных
Нясецца ў хвалях пераліўных
Здалёку песьня салаўјіна...
Расьце, гарыць душа дзяціна
І ўсё на сьвеце забывае
І шчасьце, радасьць спажывае.
І хоць дазнаўся ён прычыны,
Адкуль тој звон і сьпеў птушыны,
Але як стане прыслухацца,
Пачне запраўды сумлявацца,
Што гэта інеј так з вадою
Вядзе размову тут зімою.
Дык вось чым рэчка хлопцу міла,
Чым так яго прываражыла!

# Беларускі Хатні Прамысл.

Гэтымі днямі (18. VIII—9. IX) адбываецца ў Вільні, побач з Паўночным Кірмашом, Земляробска-Промысловай выстаўкай, і т. зв. Рэгьёнальная Выстаўка (краёвая).

Гэтая апошняя зьмяшчае ў сабе пераважна экспонаты народнага вырабу, ці іначай кажучы Беларускі Хатні Прамысл. На гэтай выстаўцы ёсьць і беларускі аддзел пад фірмаю Беларускага Гаспадарскага Зьвязу, але і ўсе іншыя аддзелы зьмяшчаюць у сабе амаль вылучна беларускія хатнія вырабы, толькі пад польскай фірмай.

Аб самай выстаўцы досыць ужо ў свой час пісалася, дык цяпер паўтараць ня будзем, а зьвернем крыху ўвагі на самы хатні выраб, яго якасьць і значэньне.

Калісьці ў недалёкай мінуўшчыне наш народ ня знаў, калі знаў дык вельмі мала, хвабрычных вырабаў, а абслугоўваў усе неабходныя патрэбы толькі вырабамі ўласных рук. Пазьней з прыплывам новае заходняе цывілізацыі, якая пранікала ў беларускую вёску праз гарады, прыплываюць паступова і ўсялякага роду хвабрычныя вырабы. Розныя хвабрычныя вырабы ў галіне гаспадарска-прамысловай будучы больш дасканальнымі і практычнымі прынясьлі вялікаю карысьць для сялянства. З другога боку вырабы ткацкія, якія пранікалі галоўным чынам таксама цераз места і шлахоцкія двары ў апошні час амаль вылучна сталіся агульня ўжыванымі, а свае ўласныя вырабы будучы прыгажэйшыя і практычнейшыя сходзяць на другое месца.

Гэта зьяўляецца зьявілчам ад'емнага характару з якім трэба змагацца. Выраб крамны зьяўляецца вельмі дарагім, з аднаго боку; і нятрывалым з другога, тады калі свае ўласныя вырабы абходзяцца шмат танней, больш мацнейшыя і прыгажэйшыя.

Беларускае сялянства пад уплывам места і мясцовае шляхты, сярод якой распаўсюджываюцца вырабы хвабрычныя, закідае свае прыгожыя старыя вопраткі і ўсе іншыя тканіны, а ганіцца за гарадзкімі модамі, якія страшна не падходзяць для вясковага ўжытку.

Беларускі хатні прамысл бяручы усестароньня зьяўляецца вельмі багаты, а перад усім пераважаюць сваім значэньнем тканіны.

Цяпер сярод інтэлігенцыі зацікаўленай народным бытам паяўляецца тэндэнцыя захаваць хатнія вырабы, імкнуцца да іх шырэйшага разьвіцьця і апрача ўласнага ўжытку вырабніка шукаць дагоднага рынку збыту. Зразумела, што побач з гэтым, старающыся у поўнай меры падняць паступова занікаючы хатні выраб трэба яго ўмела ўдасканаліць. Напр. ткуць у нас вельмі прыгожыя посьцілкі і абрусы на вускіх кроснах, а потым сшываюць і, што найгорш, у пераважнай большасьці ня роўна, так што ўзоры аднае палавіны не саўпадаюць з другой. А трэба імкнуцца каб зусім ня сшываць, а рабіць шырокія тканіны, а калі сшываць дык прынамсі роўна. Другой заганай вясковых тканін ёсьць ужываньне бавоўны, якая псуе тканіну, многа разоў карысьней ужываць толькі лён і воўну. Вось гэта дзьве галоўныя заганы нашых хатніх тканін, якіх трэба хутка пазбавіцца, а, захоўваючы старыя беларускія ўзоры і коляры, пакрысе удасканаліваць сам выраб тканін.

Беларускі Гаспадарскі Зьвяз між іншым маючы на мэце разьвіцьцё народнага промыслу ў хуткім часе адчыняе ў Вільні Коопэратыву Хатняга Прамыслу, гдзе знойдуць збыт усякага роду хатнія вырабы, а з другога боку паслужыць для шырэйшага іх разьвіцьця і ўдасканаленьня.

Апрача гэтага праектуецца залажыць у некаторых мясцох ткацкія варштаты (кросны) шырокага разьмеру дзеля тканьня шырокіх нясшываных тканін. А беларускае сялянства з другога боку, пераважна жанчыны павінны ўсьвядамляць, што свая ўласная тканіна ёсьць многа разоў прыгажэйшая і выгаднейшая чымся тандэтная крамніна, павінны выкідаць чужыя моды, неўласьцівыя нашай вёсцы, а ўжываць волучна тканіны ўласнага вырабу. *Рт.*

*Прачытаўшы, не зьністажай, але дай прачытаць другому.*

## Kut naš.

Kut naš miły,
Kut radzimy,
Mo chto skaža,
Što ščaśliwy?
Dyk i ŭ heta
Možna wieryć,
Chto pa šlachu tom
Pachodzić,
Dzie pałacy
Dy abšary,
Kamianicy,
Mahazyny.
Kut toj miły,
Kut ščaśliwy;
Hlań-ža ŭ pole
Ŭ dal šyroku:
Stajać bory,
Rastuć puščy,
Pływuć reki;
A pa rekach,
Pa čyhunkach
Jeduć bory
Za hranicu
U wadmienu
Na dalary
Ci šterlinhi,
Za jakija
Wypraŭlajuć
Tut wiasielli.
Nadajeła
Tamu boru
Tut šumieci,
Złuju wolu
Sustrekaci ...
A z druhoha
Hlańmo boku—
Piaskie wočy
Zasypajuć,
Lud hałodny
Hoły j bosy
Hniecca stohnie
Ad ciažaru
U ciemryni
Biaz budowy,
Tolki ŭ łomi,
Dzie pažary
Dy chwaroby
Wymirańnie,
Kut niadoli
Wid panury —
Heta wioski
Naša žyćcia.

*A. Pylina.*

# Што дзеіцца у сьвеце?

### Харвацкае духавенства проці сэрбскага ўраду.

Газэтам наказуюць із Загрэба, што паміж харвацкім духавенствам і прэм'ер-міністрам югаславянскага ўраду Карошцам дайшло да зарваньня адносінаў. Арцыбіскуп Загрэба д-р. Бауэр заявіў, што ён ліча сваёй павіннасьцяй перасьцерагчы народ перад урадовымі ўплывамі, а біскуп Банлюкін выдаў пастырскі ліст, у каторым выступае проці пацзьдзержаваньня ўраду Карошцавага.

Трэба адцеміць тутака, што харвацкае духавенства руліцца аб долі й патрэбах свайго роднага народу, дзеля таго й народ яго шануе й слухае. У Харвацыі прадставіць сабе немагчыма, каб быў такі біскуп, як у нас каталіцкі біскуп эндэк Ялбжыкоўскі, каторы руліцца вылучна аб тым, каб спалячыць наш народ, а вера яму ня дорага, ён несправядліва адносіцца да Беларусаў-каталікоў і проста шкодзе ім. Каб такі Ялбжыкоўслі лучыў у Харвацыю, дык ён там і дня не пабыўбы.

### У Баўгарыі забурэньне.

Як мы й спадзяваліся ў N 15 „Народу", у Баўгарыі ў сувязі з пагоршанымі адносінамі баўгарскага ўраду да македонскай арганізацыі ўзьнiклі непарадкі. Ідуць партызанцкія бітвы. У ваднэй такой бітве прыймала ўчасьце з абодвых бакоў каля 300 чалавек.

### Адчыненьне 51 паседжаньня Лігі Народаў.

30-го жніўня адчынена ў Жэнэве 51-ае паседжаньне Лігі Народаў.

### Міністар згарэў на аэропляне.

2 верасьня францускі міністар гандлю, Бакаоўскі, паехаў аэроплянам на выбег. У дарозе мотор аэропляну задзержыўся і аэроплян, як камень, зваліўся на зямлю. Выцяўшыся аб зямлю, аэроплян загарэўся. Згарэлі мін. Бакаоўскі, дырэктар Т-ва Паветранага Флоту, пілёт, мэханік і назіральнік; абгарэлыя трупы можна было толькі адрозьніць паводле гадзіньнікаў і пярсьцёнкаў. Выбіраючыся ў падарожжа мін. Бакаоўскі сказаў: „У газэтах пішуць, што я ніколі ня лётаю на аэропляне і сьцерагуся ўсялякай небясьпечнасьці. Але паветранае падарожжа мяне зусім не палохае".

### Справа польска-літоўская на паседжаньні Лігі Народаў.

На цяперашнім паседжаньні Лігі Народаў разглядаецца справа польска-літоўскага спору. У гэтай справе 6. IX г. г. забраў голас польскі міністар Залескі, які падчыркнуў, што ня Польшча выступіла з жальбаю перад Радаю Лігі, але Літва і што Польшча застасавалася да вынесенай у сьнежні месяцы разалюцыі Рады і з добраю воляю прыступіла да перагавораў.

Далей забіраець голас Вальдэмар, які ў сваей мове прыпамінае ўсю гісторыю паваенных польска-літоўскіх адносінаў. Далей закідаючы Палякам фармаваньня збройных дружынаў пасярод літоўскае эміграцыі і паказываецъ на прысутнага на паседжаньні п. Галувку, як на арганізатара гэтых дружынаў.

У канцы Вальдэжар зазначае, што пры сучасным стане рэчаў ня можна спадзявацца шыбкіх і памысных перагавораў і, што будуць яны адбывацца вельмі марудна.

Падчас рэплікі між мін. Залескім і Вальдэмарам, першы чытаець, першы артыкул літоўскага праекту, у якім Вальдэмар дамагаецца, каб Польшча прызнала і падпісала, што прастор паміж літоўска-расейскаю граніцаю паводлуг рыскага трактату з 1920 г., а даўнай лініяй дэмаркацыйнай польска-літоўскай 1923 г. абедзьве староны прызнаюць за спорны.

Далейшыя вынікі спору ня ведамы, бо паседжаньне будзе яшчэ цягнуцца далей.

### Рады і разбраеньне.

Абгаварваючы пісьмо Літвінава, высланае ім да старшыні прыгатаваўчае комісіі разбраянёвай канфэрэнцыі, „Известія" атакуюць Лігу Народаў, за адклад разгляду радавага праекту разбраеньня.

### Эвакуацыя Надрэніі.

„Бэрлінэр Тагэблят" падае, што стараньні дыпляматычных прадстаўнікаў Нямеччыны ў Парыжы, Лёндане, Рыме і Бруксэлі, пазваляюць спадзявацца, што канцлеру Мюлеру ўдасца на верасьнёвай сэсіі Лігі Народаў паставіць справу эвакуацыі Надрэніі.

## ПОШТА.

— **Клімовіч Пётра** зь Бярэзы Картускай. Пробныя нумары Вам пасланы, а далей, калі хочаце даставаць „Народ" просім прыслаць падпіску.

— **Чытаром у Вялейцы пав.** Дзеля таго што газэта на пошце траціцца, а, з другога боку Вы падпіску прысылаеце не акуратна, газэту Вам перасталі пасылаць, а можаце яе купіць у Вялейцы ў Беларускай Кнігарні ля вул. Донб-Бернацкая 2.

— **Чытаром у в. Сычавічах.** Ліст Ваш надрукаваны ня будзе, бо ўсе 5 подпісаў пад ім напісаны аднэй рукой. Калі хочаце, каб ліст быў надрукаваны, дык павінен ён быць падпісаны праўдзівымі прозьвішчамі і прозьвішчы гэныя мусяць быць надрукаваны ў газэце, бо трэба мець адвагу адказаваць перад грамадзянствам.



Выдавецтва Беларускае Сялянскае Партыі. Вільня, Друкарня „PAX", Свята-Ігнатаўская вул. № 5. Рэдактар Б. Станкевіч.